**№51 (1864)**

Аўторак, 23 сакавіка 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля


**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +7...+9, без ападкаў, уначы — +3...+5, дождж; у Брэсце ўдзень — +9...+11, без ападкаў, уначы — +7...+9, дождж; у Гродне ўдзень — +8...+10, без ападкаў, уначы — +4...+6, дождж; у Віцебску ўдзень — +5...+7, уначы — +1...+3, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +10...+12, без ападкаў, уначы — +5...+7, дождж; у Магілёве ўдзень — +8...+10, уначы — +3...+5, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



**КАНФЛІКТ**

## Чаго хоча «ЮКІ»?

Учора рэдакцыя газеты атрымала трывожны ліст з адкрытага акцыянернага таварыства "ЮКІ". У ім паведамляецца, што 22 сакавіка дзесяць чалавек гэтага невялікага працоўнага калектыву аб'явілі галадоўку. Да іх збіраюцца далучыцца і жанчыны. Акцыя пратэсту накіравана супраць дзеянняў мясцовых улад, якія прыкладаюць намаганні для ліквідацыі прадпрыемства і пазбаўлення людзей працы.

Прадпрыемства вырабляе бетон і раствор і на працягу сямі гадоў спрабуе атрымаць зямельны ўчастак плошчай болей гектара, на якім яно знаходзіцца. Аднак Смалявіцкі райвыканкам адмаўляе. Спрабавалі знайсці справядлівасць у судах, пракуратуры, Савеце міністраў і Адміністрацыі прэзідэнта. Безвынікова. Калектыў стаміўся ад барацьбы з чыноўнікамі. Адна надзея быць пачутымі — аб'явіць галадоўку і звярнуцца ў СМІ, што і зроблена.

Мы патэлефанавалі ў Смалявіцкі райвыканкам. Намеснік старшыні Валянцін Макар патлумачыў, што калектыву бетоннага вузла прапаноўвалі іншае месца, абяцалі і дапамогу пры пераносе вытворчасці. Але яны заўпарціліся, хочуць займець сённяшні участак. А ён знаходзіцца пры ўездзе ў горад, можна сказаць, на "уязных варотах" і псуе ўвесь выгляд, тут намечана разбіць гарадскі парк.

Як бачым, спрэчка ўзнікла і цягнецца больш за два гады вакол аднаго-двух гектараў зямлі. У яе ўцягнуты шматлікія арганізацыі. Няўжо яе нельга вырашыць, як кажуць, палюбоўна? Думаецца, можна. Гораду патрэбен той участак, а калектыў нясе пэўныя страты пры пераездзе. Дык хіба нельга неяк вырашыць гэтыя праблемы, зрабіць крокі насустрач і не ўцягваць у свой канфлікт усё новыя арганізацыі?

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## «Анастасія Слуцкая» паедзе ў ЗША

На 37-ы міжнародны кінафестываль, які адбудзецца ў Х'юстане (ЗША), паедзе беларускі фільм "Анастасія Слуцкая". Рэжысёр карціны Ю.Ялхоў адзначыў, што еўрапейскія ленты на гэты форум трапляюць рэдка, але "Анастасія Слуцкая" атрымала такі гонар, прычым стужка будзе ўдзельнічаць у конкурснай праграме сярод больш як 50 карцін з розных краін свету.

Ю.Ялхоў нагадаў, што сёлета карціна "Анастасія Слуцкая" "будзе прадавацца ў Канах на кінарынку, праўда, будзе яна прадстаўлена ў пакеце расійскіх фільмаў".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## У спробе пранікнення ў офіс газеты «День» журналісты падазраюць супрацоўнікаў спецслужб

Спроба пранікнення ў гродзенскі офіс газеты "День" адбылася 18 сакавіка каля 10 гадзін вечара. Нарад міліцыі, выкліканы выпадковым сведкам, затрымаў двух злачынцаў.

Як паведаміў БелаПАН галоўны рэдактар газеты "День" Мікола Маркевіч, міліцыянерам затрыманыя прадставіліся як Аляксандр Вашкевіч і Віктар Макараў, якія часова не працуюць. Аднак, паводле слоў М.Маркевіча, ён апазнаў А.Вашкевіча як супрацоўніка Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Гродзенскай вобласці. "Я наглядна ведаў гэтага чалавека раней, — сказаў М.Маркевіч. — Я жыву каля Упраўлення КДБ і бачыў яго кожную раніцу, калі ён ішоў туды на працу".

Затрыманыя былі дастаўлены ў Ленінскі РУУС Гродна, дзе ў іх быў знойдзены цэлы арсенал адмычак. "Такое было адчуванне, што міліцыянеры гатовы былі ўжо адпусціць злачынцаў, — паведаміў журналіст, — а таму я заявіў, што буду чакаць, пакуль іх не афармяць па ўсіх правілах". У выніку Вашкевіч і Макараў былі занесены ў журнал затрыманняў пад нумарамі 1260 і 1261.

Паводле звестак на раніцу 19 сакавіка, затрыманыя заставаліся ў будынку Ленінскага РУУС Гродна, аднак крымінальная справа ў дачыненні да іх яшчэ ўзбуджана не была.

Як сказаў М.Маркевіч, ён расцэньвае спробу пранікнення ў офіс як пагрозу сваёй бяспецы і бяспецы журналістаў газеты. "Мы ведаем з розных публікацый, што спецслужбы здольныя падкінуць наркотыкі, зброю, і таму нам трэба быць гатовым да любой нечаканасці. Але ў любым выпадку гэтую справу мы давядзем да канца", — адзначыў галоўны рэдактар газеты "День".

Ва УКДБ па Гродзенскай вобласці інфармацыю аб дачыненні іх супрацоўнікаў да пранікнення ў офіс газеты не пацвердзілі.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.**



**ГОЛАС З ПРАГІ**

### *Вацлаў ГАВЕЛ, экс-прэзідэнт Чэхіі:*

## «Я веру, што Беларусь будзе наступнай краінай былога камуністычнага блока, у якой пераможа дэмакратыя і якая стане часткай аб'яднанай Еўропы»

У хуткім часе восем краін з былога камуністычнага блока стануць новымі сябрамі Еўрапейскага Саюза. Адбудзецца падзея, якую да нядаўняга часу амаль ніхто не мог сабе ўявіць. Краіны, у якіх яшчэ 15 гадоў таму панаваў таталітарны рэжым, што прыціскаў асноўныя правы і свабоды чалавека, краіны, лёсы якіх вызначала вузкае кола людзей пры дапамозе адзінай дзяржаўнай палітычнай партыі, якая абапіралася на ўзброеныя сілы, стануць часткай гістарычна першага наднацыянальнага згуртавання, якое заснавана на прынцыпах сапраўднай дэмакратыі, вызнання агульных каштоўнасцяў і ўзаемнай адказнасці за будучыню ўсяго кантынента. Умовай, на падставе якой краіны Сярэдняй і Усходняй Еўропы ўвогуле маглі прэтэндаваць на ўваход у Саюз, было прыняцце імі прынцыпаў дэмакратыі і прававой дзяржавы.

Усходнім суседам пашыранага Еўрапейскага Саюза будзе таксама і Беларусь. Дзесяць гадоў аўтакратычнай ўлады Аляксандра Лукашэнкі прывялі краіну да глыбокай палітычнай ізаляцыі. Аднак гэта не павінна закранаць тых, хто жадае супрацоўнічаць з Еўропай.

Адной са спадарожных прыкмет несвабоднага рэжыму з'яўляецца непрыняцце насельніцтвам грамадскай актыўнасці і яго закрытасць перад усімі праявамі неабыякавасці і супольнай адказнасці за грамадскія справы. Менавіта гэта і адбываецца сёння на Беларусі, дзе грамадзяне штодня адчуваюць парушэнне сваіх асноўных правоў, якімі з'яўляюцца права на свабоду распаўсюджвання інфармацыі ці свабода выказвання. Крымінальны пераслед вольнадумных беларусаў, ціск на іх па месцы працы ці навучання сталіся звычайнымі ў штодзённым жыцці, дакладна так, як і мэтавыя змены заканадаўства. Калі ў несвабодных варунках рэпрэсіі і карупцыя ўспрымаюцца як грамадска-палітычная норма, то гэта вядзе да пашырэння погляду, паводле якога кожны мусіць перадусім клапаціцца сам пра сябе, што займацца грамадскай дзейнасцю бессэнсоўна і што крымінальны пераслед суграмадзян ці ў рэшце рэшт іх знікненні з'яўляюцца вынікам уласнай легкадумнасці гэтых грамадзян. Знешні погляд на Беларусь як на супольнасць грамадзян, якія змірыліся са сваім лёсам, ураўнаважваецца дзейнасцю шэрагу актывістаў ці аб'яднанняў, аб якіх прэзідэнт Лукашэнка добра ведае, што менавіта яны з'яўляюцца найбольшымі праціўнікамі карупцыі і зародкам насамрэч свабоднага сувырашэння, якое пазней можа паступова перарасці ў свабодныя выбары. Іншымі словамі: свабодная будучыня Беларусі залежыць ад сённяшняй актыўнасці незалежных грамадскіх ініцыятыў.

Здаецца, што Беларусь арыентуецца на традыцыйныя шчыльныя сувязі з Расіяй ды мала цікавіцца Еўропай. Аднак вырастае генерацыя, якая бачыць сваю будучыню менавіта ў Еўрапейскім Саюзе. Да яе перш за ўсё належаць тыя, хто імкнецца звярнуць увагу грамадства на карупцыю, хлусню ды перакручванне афіцыйнай інфармацыі, нягледзячы на ўласны камфорт, а часта і на ўласную бяспеку. Дакладна, як і ў выпадку чэхаславацкіх, польскіх ці венгерскіх дысідэнтаў, размова ідзе пра меншасць, чый уплыў, здавалася, быў мінімальны, а шанцы на прасоўванне лепшых ідэй — мізэрныя. Верагодна з гэтага сілкуецца няпэўнасць і скептыцызм еўрапейцаў адносна лёсу беларусаў, а таксама і пэўная бездапаможнасць перад тварам новага суседства.

Калі раней на існаванне лукашэнкаўскага рэжыму Еўропа рэагавала перш за ўсё крытыкай і палітычнай ізаляцыяй яго прадстаўнікоў, то зараз надышоў час пайсці насустрач тым, хто імкнецца да супрацоўніцтва і партнёрства з Еўропай. У выпадку Беларусі відавочна, што размова ідзе не пра афіцыйную палітычную рэпрэзентацыю, а хутчэй пра дэмакратычную апазіцыю, незалежныя ініцыятывы, пра студэнтаў і грамадзян, для якіх дэмакратычная Беларусь атаясамліваецца з еўрапейскай Беларуссю.

Я вельмі глыбока перакананы ў тым, што еўрапейцы мусяць не толькі ізаляваць афіцыйных беларускіх прадстаўнікоў, але перш за ўсё адчыніць як мага болей сваіх праграм і фондаў для тых суб'ектаў, якія зацікаўлены ў супрацоўніцтве, і нават у тым выпадку, калі афіцыйны рэжым будзе гэтаму перашкаджаць. Толькі так мы маем усе шанцы на змену тамтэйшай сітуацыі ды на стварэнне ўмоў для свабодных выбараў. Беларусы самі вырашаць, далучыцца ім да Еўропы ці не, гэта будзе іх справа, а мы ўсе будзем мусіць іх выбар паважаць. Але дзверы ў Еўропу мусяць застацца адчыненымі.

Я веру, што будучыня Беларусі цесна звязана з будучыняй Еўропы, а будучыня Еўропы — з будучыняй дэмакратычнай і незалежнай Беларусі. Я веру, што дзякуючы партнёрству з праеўрапейскай часткай беларускага грамадства можа адбыцца тое, што зараз мала хто можа сабе ўявіць — тое, што Беларусь будзе наступнай краінай былога камуністычнага блока, у якой пераможа дэмакратыя і якая стане часткай аб'яднанай Еўропы.

## Івонка Сурвілла абмеркавала са спікерам чэшскага парламента сітуацыю ў Беларусі

Днямі старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла сустрэлася са спікерам чэшскага парламента Любамірам Заарaлэкам.

Падчас гутаркі з палітыкам Івонка Сурвілла адзначыла, што на шляху Беларусі да дэмакратыі паўстаюць традыцыйная абыякавасць Еўропы да беларускай праблематыкі і агрэсіўнае жаданне Расіі "адваяваць" Беларусь эканамічнымі спосабамі (апошні прыклад — "газавая вайна"). Вельмі адмоўна ўплывае на сітуацыю і ўзмацненне з боку новых краін Еўрасаюза візавага рэжыму ў дачыненні да грамадзян Беларусі. Аднак апошнім часам, лічыць Сурвілла, назіраюцца і станоўчыя тэндэнцыі, сярод якіх — большая зацікаўленасць да Беларусі з боку суседзяў і ўсведамленне афіцыйным Вашынгтонам адмоўнай ролі расійскага фактару ў дачыненні да постсавецкіх краін. Але самыя галоўныя змены адбываюцца ў самой Беларусі, адзначыла старшыня Рады БНР, — гэта аб'яднанне апазіцыі (Народная кааліцыя **"5+". — БелаПАН**) і абуджэнне моладзі.

Як паведаміла Івонка Сурвілла ў інтэрв'ю БелаПАН пасля сустрэчы, спікер чэшскага парламента быў уражаны падзеямі вакол Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага гуманітарнага ліцэя імя Я.Коласа, які быў ліквідаваны ўладамі Беларусі ў чэрвені мінулага года і іншымі прыкладамі знішчэння беларускімі ўладамі нацыянальнай культуры. Уздымалася пытанне навучання беларускіх студэнтаў у Чэхіі. Любамір Заарaлэк запэўніў старшыню Рады БНР, што Чэхія падтрымае беларускую дэмакратыю на міжнародным ўзроўні, у тым ліку і падчас прыняцця рэзалюцыі па Беларусі ў Камісіі па правах чалавека ААН.

**БелаПАН.**

## Курсы замежных валют

Нацыянальны банк устанавіў на 23 сакавіка наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:

1 долар ЗША — 2152 рублі
1 еўра — 2644.05
1 расійскі рубель — 75.48
1 балгарскі леў — 1358.24
10 японскіх іен — 200.81
1 казахскі тэнге — 15.49
1 канадскі долар — 1614.89
1 латвійскі лат — 4012.68
1 літоўскі літ — 765.69
1 малдаўскі лей — 173.69
1 польскі злоты — 559.91
10.000 турэцкіх лір — 16.31
1 украінская грыўна — 403.71
1 англійскі фунт стэрлінгаў — 3948.60
1 чэшская крона — 79.73
1 швейцарскі франк — 1698.10
1 эстонская крона — 169.04

**СКАНДАЛ**

### *Геннадий ДАНИЛОВ:*

## «Оскорблений я не прощаю никому...»

*Бывший госсекретарь по общественной безопасности и борьбе с преступностью Совета министров Республики Беларусь* **Геннадий Данилов** *подал в суд на экс-министра внутренних дел Беларуси, а ныне — депутата Палаты представителей генерал-полковника* **Владимира Егорова,** *его бывшего помощника полковника милиции* **Михаила Харитонова** *и директора ЗАО "Бонем", экс-редактора газеты "На страже Октября"* **Сергея Шахновича.**

*Данилов просит защитить его имя, честь, достоинство, деловую репутацию и взыскать с обидчиков 100 миллионов рублей.*

Как уже сообщала "Народная воля", в конце прошлого года в столичной типографии "Бонем" тиражом 2000 экземпляров вышла книга ***"Звезды и тернии генерала Егорова".*** В ней **Владимир Егоров** пытается проанализировать прожитое.

В обращении к читателям Егоров пишет: *"У меня не было возможности самому написать это повествование. Я благодарен своему бывшему помощнику, полковнику милиции Михаилу Харитонову, который был рядом со мной в течение всего периода моей службы министром внутренних дел Беларуси, взявшему на себя труд записать и подготовить к печати то, о чем мы говорили во время не таких уж и частых встреч. Этим и объясняется выбор не совсем обычной формы подачи материала...".*

С журналистской точки зрения в "Звездах и терниях" нет ни сенсационных откровений, ни скандальных фактов. Зато много нелестных высказываний и критики звучит в адрес бывшего премьер-министра **Вячеслава Кебича,** председателя Верховного Совета Беларуси 12-го созыва **Мечислава Гриба** и **Геннадия Данилова.** Так, по мнению Егорова, кадры на ключевые государственные должности Геннадий Ильич подбирал по принципу личной преданности. На профессионализм не смотрел...

Геннадий Данилов считает, Владимир Егоров его оклеветал.

*"В книге содержится целый ряд клеветнических, не соответствующих действительности заявлений, порочащих мою честь и достоинство и деловую репутацию",* — написал Данилов в исковом заявлении.

*"Егоров обвиняет меня в непрофессионализме, растратах, хищениях, не приводя при этом никаких фактов и аргументов,* — говорит Геннадий Ильич. — *Он же в то время был министром внутренних дел, и если я на самом деле воровал, взятки брал, почему он не возбуждал в отношении меня уголовные дела? Оскорблений я не прощаю никому..."*

Иск о защите чести и достоинства Геннадий Данилов подал 18 марта. В этот же день уплатил пошлину — 175 тысяч рублей. Одновременно он обратился к генпрокурору Беларуси **Виктору Шейману** с просьбой привлечь генерал-полковника Егорова к уголовной ответственности за клевету.

**Марина КОКТЫШ.**

***P.S. "Народная воля" будет следить за развитием судебного процесса. Подробности дела — в ближайших номерах.***

## «Белпошта» і «Белсаюздрук» даюць Вам апошні шанц...

*У Вас не было магчымасці афарміць падпіску на II квартал 2004 года да 20 сакавіка?*

*"Белпошта" і "Белсаюздрук" пайшлі Вам насустрач і працягнулі падпіску на «Народную волю» па 25 сакавіка. Не спазніцеся на гэты раз!*

*Заўважце, кошт месячнай ільготнай падпіскі — 4600 рублёў. Што за такія грошы можна купіць? 300—400 грамаў сухой каўбасы, бутэльку гарэлкі... А Вы лепш падпішыцеся на месячны камплект «Народнай волі». Не пашкадуеце...*

***Вы — з «Народнай воляй», «Народная воля» — з Вамі.***

***

*Падпісны бланк друкуем для таго, каб Вы маглі дома альбо на працы запоўніць яго і не губляць час на пошце ці ў любым падпісным пункце.*

**ВНИМАНИЕ!**

**По самым низким ценам (без стоимости почтовых услуг) минчане могут оформить подписку на "Народную волю" в пунктах подписки, в магазинах и киосках "Мингорсоюзпечать". При этом газету можно будет получать в любой удобной для вас торговой точке "Белсоюзпечати". Публикуем адреса пунктов, где можно оформить подписку "До востребования". Если есть какие-то вопросы — звоните по указанным телефонам.**

## И Вы сэкономите!

### Участок подписки «Белсоюзпечать»

ул.Володарского, 16, комн. 302 — 227-88-41

### Пункты приема подписки:

ул.Жуковского, 5, корп.1 — 224-32-03
пр.Ф.Скорины, 113 — 264-22-91
ул.Романовская Слобода, 9 — 220-83-04
ул.О.Кошевого, 8 — 230-29-20

### Магазины

№1 ул.Жуковского, 5 — 224-03-76
№2 пр.Ф.Скорины, 44 — 284-83-59
№3 пр.Ф.Скорины, 76 — 232-46-23
№4 ул.Ленина, 15 — 227-11-92
№6 ул.Филимонова, 1 — 235-63-11
№7 ул.Я.Коласа, 69 — 288-30-20
№8 ул.Сурганова, 40 — 232-45-10
№9 пр.Рокоссовского, 140 — 247-30-15
№10 бульвар Шевченко, 7 — 233-74-88
№11 пр.Пушкина, 77 — 255-80-71
№12 ул.Кижеватова, 80 — 278-77-61
№13 ул.Калиновского, 82, корп.2 — 264-06-42
№14 ул.Володарского, 22 — 227-75-55
№15 ул.Танковая, 16 — 223-82-39
№16 ул.В.Хоружей, 24 — 234-27-25
№17 ул.Некрасова, 35 — 231-03-28
№18 станция метро "Площадь Победы" — 284-31-06
№19 пр.Машерова, 51, корп.1 — 223-81-66
№20 ул.Есенина, 16 — 271-87-21
№21 станция метро "Пушкинская" — 255-57-20
№22 ул.Илимская, 10, корп.2 — 243-16-83
№23 ул.Славинского, 39 — 264-36-33
№24 ул.Жилуновича, 31 — 245-05-74
№25 ул.К.Маркса, 21 — 227-08-52

### Киоски

№2 Лингвистический университет, ул.Захарова, 21
№18 Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4
№38 Педагогический университет, ул.Советская, 18
№78 г-ца "Юбилейная", пр. Машерова, 19
№95 Министерство архитектуры и строительства, ул.Мясникова, 39
№136 станция метро "Площадь Я.Коласа", выход к Академии физвоспитания
№187 г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15
№189 Автовокзал "Московский"
№198 Экономический университет, пр. Партизанский, 26
№209 проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2
№228 Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17
№232 Минский завод холодильников, пр. Машерова
№245 Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56
№259 Минский государственный торговый колледж, ул.Восточная, 183
№260 пр.Ф.Скорины, 169
№262 г-ца "Планета", пр. Машерова, 31
№298 пр.Машерова, 75/1
№302 9-я больница, ул.Семашко, 8
№313 Слободской проезд, 24

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** **на газету** ____________ (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў ____

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча,ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

**на газету** ____________ (індэкс выдання)

Народная Воля

| Кошт | падпіскі | ______ руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ______ руб. | | |

на 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча,ініцыялы)

